# Беларускі Звон

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ.

| Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Біскупская вул. 12. Рэдакцыя адчынена: 12—2 штодня апрача сьвяточных дзён. | Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым прозьвішчам аўтора і адрэсам (для ведама Рэдакцыі). Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | **Цана кожнага нумару 30 м.** Падпіска на 3 месяцы каштуе 400 м. (з даст. да хаты). Цана абвестак: перад тэкстам 150 мк., сярод тэксту 200 мк. і на апошняй страніцы 70 мк. за радок пэтыту ў 1 шпальт. |
|---|---|---|

Год I. Вільня. Пятніца, 18-га лістапада 1921 г. № 21.

## Дзіўнае разуменьне.

У нашу рэдакцыю трапіў гэткі арыгінальны цыркуляр Упраўленьня Гарадзейскае воласьці, Несьвіскага павету да падуладных гэтай воласьці солтысаў, які й перадаем, захоўваючы яго орфографію:

URZĄD
Gminy Horodziejskiej
pow. Nieświeskiego
21/X 1921
№ 2110

Do
Sołtysa wsi . . . .

Polecam panu ogłosić co następuję:

1) dnia 25/X r. b. o godz. 9 z rana odbędą się wybory do rad kresowych w gminie. Od wsi prawosławnych należy wybrać i przysłać po 1 człowieku od 10 ludzi, co zaś do wsi Polskich to winni być wszyscy mieszkańcy. Wysłanych należy przedstawić w spisie.

2) Objawić ludnosci że 27/X r. b. o godz. 9 z rana będą się przyjmowały straty poszkodowanych przez wojsko w gminie Horodziejskiej. Każdy zgłoszający się winien spisać swoje straty i przypr wadzić nie mniej 2 świadków pod przysięgą.

3) 25/X sołtysi winni stawić się w gminie służbowo na godzinę 9 z rana.

(—) подпіс нячытальны
w. z. Wójt Gminy.

Ніякіх паметак на гэтым распараджэньні валаснога упраўленьня, што яно тайнае няма і трэба разумець, што яно зусім гэткага характару ня мае.

Апошнія два пункты гэтага цыркуляру для нас зусім могуць быць няцікавы, бо ўлада на тое і ёсьць уладаю, каб падлічваць ваенныя страты грамадзян, альбо зьбіраць сваіх падуладных службова, дзе гэта трэба.

А вось першы пункт — аб выбары нейкіх крэсовых радаў — служыць найлепшым люстрам, у якім выразна адбіваецца дзіўнае ў нашыя дні разуменьне справаў і ня менш дзіўнае дзяленьне вясковага насяленьня на... *праваслаўных* і *палякоў*, прычым правы гэтых дзьвёх катэгорыяў насяленьня далёка няроўныя ў вачох валасной адміністрацыі.

Што да дзяленьня сялян на даныя катэгорыі, дык гэта рэч ані ня новая, а проста крыху наадварот: пад Расеяй таксама адміністратары, накшталт паліцэйскіх ураднікаў, дзялілі беларусаў, ведама-ж па веры, а не па іншым чым, на... „рускіх“ і „палякоў“.

І гэтак сама адны — „рускія“ — лічыліся, як-бы праўдзівымі сынамі „матушкі“, а другія — „палякі“ —, як-бы пасынкамі, значыцца й тыя малыя правы, якія ўсё-ж такі належалі тады „россійскому подданному“, ня былі роўнымі для сказаных дзьвёх офіцыяльных катэгорыяў.

Няроўныя нашы сяляне і ў вачох валасных Гарадзейскіх адміністратараў сучаснае „Macierzy“, бо „ад вёсак праваслаўных, — кажа валасны цыркуляр, — трэба выбраць і прысланць па 1 чалавеку ад 10 чалав., а што да вёсак Польскіх, дык павінны быць усе жыхары“...

Можа й знайшоўся ўжо хто-нібудзь накшталт, адкрыўшага Амэрыку, Колюмба, выкапаўшы зьнекуль у Беларусі вёскі *польскія*.

Але, што-ж за прывілеі устанаўляюцца валаснымі Зэўсамі для гэтых самых вёсак перад вёскамі іншымі, як даўней казалі гісторыкі „худымі і няслаўнымі“, а па сучасным разуменьні валасной адміністрацыі, — праваслаўнымі.

Каму патрэбны гэткі падзел насяленьня, адзінага па сваёй нацыянальнасьці?

Каму патрэбны і самыя крэсовыя рады?

А калі й патрэбны каму, дык ці-ж ня ўсе жыхары крэсаў маюць зусім аднолькавае права падаваць роўныя галасы за іх выбары?

Бо, калі-б навет дапусьцілі мы, што сапраўды польскія вёскі на так званых „крэсах“ і зьявіліся пасьля сучаснай колёнізатарскай палітыкі, дык ўсё-ж такі палякі-колёністыя ніяк ня могуць пры дэмократычных парадках мець большае выбарнае права за старых, хаця і праваслаўных, жыхароў!

Калі-ж, нарэшце, згінуць старыя, струхлеўшыя разуменьні, калі патрапім жыць паводлуг права і без цыркуляраў?

## Неразгаданая загадка

*„Чым ёсьць Вільня і Віленская зямля — Польшчай, Расеяй, Літвою, Беларусьсю?..*

(Словы з дэкляарацыі Начальніка Польскай дзяржавы Я. Пілсудскага).

Апошнімі днямі справа Віленшчыны набрала ў Варшаве такой над'звычайнай вострасьці, што можна было спадзявацца на вельмі цікавыя з усяго пасьледзтвы.

Варшаўскі Сойм — у значнай сваёй большасьці — стаіць на грунце прылучэньня Віленшчыны да Польскай дзяржавы. Меншасьць — за фэдэрацыю, або аўтаномію — гэта на словах, — а на самым дзеле за тое-ж далучэньне, толькі з некаторымі гарантыямі „тутэйшасьці“.

Ліга Народаў, як ведама, стаіць па зусім іншым становішчы, прызнаўшы Вільню і Віленшчыну Ліцьве, а ня Польшчы. І вось, ў рэзультаце „неяснасьці паняцьцяў чым зьяўляецца Віленская зямля“, Начальнік Польскай дзяржавы папытаўся выступіць з компромісным проектам развязаньня справы Віленшчыны, які зводзіцца да таго, што 1) тэрыторыя, так званай, Сярэдняй Літвы пашыраецца на паветы Брацлаўскі і Лідзкі і 2) Віленскі Сойм павінен быць свабодным у выказаньні свае волі.

Так, па крайняй меры, можна зразумець аснаўныя постуляты „дэкляраацыі начальніка дзяржавы“.

Як бачым, ў гэтыя постулятах нічога „рэвалюцыйнага“ няма, бо хто-ж вінават, што тэрыторыя Сярэдняй Літвы па волі Варшаўскага Сойму, а можа і яшчэ каго, ўсё звужалася і звужалася, а ідэя Сойму ў Вільні ўсё затушоўвалася і падмянялася „zgromadzeniem orzekaiącym“ а то і проста „wcielieniem“.

На фоне чыста-польскіх палітычных кірункаў голас Начальніка Польскай дзяржавы можа паказацца левым, радыкальным. Але для тых, хто ня лічыць сябе паляком, і хто становіць пераважную большасьць насяленьня Віленшчыны, голас Начальніка Польскай дзяржавы пакажацца несправядлівым.

Дзіўна, што Начальнік Польскай дзяржавы, называе Віленшчыну „тыповым краем тутэйшых“, калі ўсім ведама, што ў ім жывуць беларусы, ліцьвіны, палякі і жыды, людзі — што знаюць сваю нацыянальнасьць.

Начальнік Польскай дзяржавы калісьто гаварыў аб „вольных і роўных“. Наглядзеліся мы на гэтыя „роўнасьці і вольнасьці“: Не чакаем мы нічога і ад „свабоднага выказаньня волі насяленьня“, пры выбарах у Віленскі Сойм.

Неразгаданую загадку аб тым, як быць з Віленшчынай, не разгадаў і Начальнік Польскай Дзяржавы.

Ня варта было рабіць буру... ў шклянцы вады.

**П—ц.**

## Начальнік Польскай Дзяржавы аб Віленскім пытаньні.

Начальнік Дзяржавы на пасяджэньні сэньёрэн-конвэнту 12 лістапада г. г. аб крызысе з прычыны віленскага пытаньня заявіў:

1) У працягу больш, як году Польская дзяржава знаходзіцца ў палажэньні перагавораў разам з іншымі высокімі старонамі датычна спосабаў рашэньня віленскага пытаньня. Ў працягу гэтага году ніводзін з польскіх урадаў не пакідаў сумлеўку ў тым, што істотаю спрэчкі не зьяўляецца толькі тэрыторыя Сярэдняе Літвы. Праз гэта Начальнік дзяржавы думае, што ён адпавядальны за прадстаўніцтва гэтага пагляду, разумеючы, ведама, што гэтым ні ў чым не нарушаюцца правы польскага народу на зьмену дасюлешніх пагладаў польскіх урадаў праз сваіх соймавых прадстаўнікоў.

2) Што да самае істоты справы, дык асабісты пагляд Начальніка Дзяржавы вынікае не з падзеяў сучаснага момэнту, а з шматгадовай, векавой гісторыі Вільні й Віленшчыны. Зямля гэта была спрэчнаю тэрыторыяй паміж Польшчаю і ўсходнім суседам. Спэцыяльна пасьля ўпадку даўнейшай Рэчыпаспалітай, Расея ўжыла ўсе свае сілы, каб зруйнаваць ранейшыя сувязі гэтай зямлі з Польшчаю. Гэтыя высілкі Расеі ў рэзультатах сваіх зацямнілі й заблуталі пытаньне: чым-жа сапраўды зьяўляецца Вільня й Віленская зямля — Польшчаю, Расеяй, Літвою, ці Беларусьсю?.. Начальнік Польск. Дзяржавы, як сын гэтае зямлі сьцьвярдзіў, што неясьнасьць разуменьняў чым ёсьць Віленская зямля, была гэтак вялікаю, што зьяўляецца рэальным грунтам дзеля разважаньняў цэлага сьвету аб гэтай справе і, нажаль, пытаньне гэтае было неясным для большае часьці палякоў і часьці насяленьня гэтае зямлі, якая стала тыповым краем „тутэйшых“ і „забранага краю“. Усе гэтыя заблутаныя разуменьні і гістарычныя традыцыі ў дасюлешніх падзеях сьвету расьцінаў толькі меч. Таксама мечам вырашана й цяпер справа Вільні і яе зямлі. Начальнік Дзяржавы лічыць, што Польшча ня можа абмежавацца гэтым толькі спосабам вырашэньня лёсу гэтае зямлі і гэта з пагляду таксама на ўшанаваньне вялікіх гістарычных традыцыяў даўнейшай Польшчы, як і Польшчы пасьля падзелаў, калі Вільня сваею працаю давала ў доўгі пэрыяд цяжкай няволі моц трываньня й вялікія моральныя сілы. Праз гэта, пасьля доўгіх размоваў з паасобнымі прадстаўнікамі партыяў, Нач. Дзяржавы, заявіў, што па разглядзе ўсіх бакоў справы і робячы спробу компромісу з свайго прынцыпіяльнага пагляду, стаіць пры ўрадовым проекце, ад якога адступіць ня можа.

Дадаткова Нач. Дзярж. заявіў, што просіць не мяшаць да гэтай справы ніякіх дыскусіяў ў галіне гэт. зван. фэдэрацыі, а ні разважаньня пытаньняў: анэксія, ці плебісцыт, як прынцыпы рашэньня спрэчных пытаньняў у сьвеце. Нач. Дзяржавы, хочучы аддаць рашэньне спрэчкі самім жыхаром Віленшчыны, ня шукае ні ў чым спосабу стамаваньня яе волі й ніякае праграмы ня хоча ёй навязаць. Замест гэтага ў пытаньні: анэксія, ці плебісцыт, ня лічыць, каб у сучасны гістарычны момэнт можна было без разбору прытарноўваць ува ўсіх выпадках, як на цэлым сьвеце, так і ў Польшчы, адзін і той самы прынцып. (ПАТ.).

## Маленькі фэльетон.

### Павестка і інш.

Трудна фэльетоністаму мець прыяцялёў, бо гэтак іншы раз, бяз ніякае злосьці, дзеля грамадзкага дабра возьмеш дый пра што-нібудзь напішаш з паўсотні радкоў. Напішаш, а пасьля азірнешся: ажно й зачапіў таго-сяго за балючае месца.

Адзін прыяцель на маю долю ўсё-ж такі застаўся і лёс давёў мяне гэтымі днямі спаткацца з ім.

— Ах, як я рад, што мы спаткаліся, — пачаў я і далей пажаліўся яму на сваю долю адзінотную, якраз вось гэтымі словамі, што пачынаецца гэты мой расказ.

— А што гэта, сапраўды, ня чуваць і ня відаць цябе ні на якіх шпальтах? Ці-ж на тое ты Звончык, каб так хутка названіцца? — спытаўся весела мой прыя-

цель зьдзіўлены тым, што я, праўда такі, досіць ужо маўчу і ня пішу.

— Не хачу нажываць сабе непрыяцеляў,—упарта цьвярдзіў я.—То-ж толькі ты ў мяне яшчэ, пакуль што, і застаўся. А то гэтак возьмеш вось ды зачэпіш якуюнібудзь, як кажуць, „шышку“ нашу беларускую, а там і лічы бяду. Вось, напрыклад, здарылася нешта гэткае, як чуў я, ў тутэйшым Саюзе Коопэратываў, але-ж сам мусі ведаеш, што там гэтых нашых важных пэрсонаў на кіраўнічых ролях не адзін чалавек. Ёсьць быўшыя міністры, пасланьнікі розныя, упаважненыя і інш.

— А што, што там такое?—зацікавіўся прыяцель.

— А хто яго дакладна ведае. Жыў ды працаваў сабе кажуць Саюз, а з Саюзам і кіраўнікі яго. Аж пасьля неяк у канцы лета спатрэбілася на нешта нашым беларусам-коопэратарам пусьціць да сябе прыехаўшага з Варшавы пэ-пэ-эса; бойкага такога, энэргічнага, навет пабеларуску ня горш за мяне з табою гавора. Спадабаўся гэты панок нашым, ну як-бы й саўсім свой чалавек, а пасьля... пасьля, здаецца, ўсё там дагары нагамі перакуліць, а ў першую чаргу ну, ведама-ж, кіраўнікоў...

— Э, гэта што, глупства,—перабіў мяне прыяцель,—вось ці чуў ты, што Аляксюк чаўпе. Гэткага, браце, яшчэ й на сьвеце не здаралася. А пагражае, браце, супрацоўніка „Kgупісу“ прыцягнуць у суд за... дыплямацыю ..

— Як гэта за дыплямацыю?—аслупеўшы зусім, спытаўся я.

— А так. Вось паглядзі, калі ня верыш.

І тут прыяцель пад самы нос падсунуў мне выцягнены з кішаня нумар „Jednaści“, дзе сапраўды так і было падрукована—„za dyplamacyju“.

— Ну гэта нешта накшталт першага красавіка, хаця сягоньня й лістапад,—папрабаваў я растлумачыць свайму прыяцелю.

— Не, браце, тут ня жарты, а, вось пабачыш, можа быць суд.

— Ну, суд ня толькі што можа быць, а суд, як суд, ёсьць, і павінен быць заўсёды.—пажартаваў я, думаючы, што мой прыяцель зарапартоўваецца, хаця тутжа заявіў яму, што я яшчэ ня ведаю, як у тутэйшым судзе дзьверы адчыняюцца і дзе ён кватэруе.

— А, ня ведаеш, дык хутка пабываеш там і даведаешся,—запэўніў прыяцель.

— Хто? я? ў судзе?—зьдзівіўся я,—ну гэта ўжо ты занадта разумны. Бо хаця суд я шаную больш можа за ўсё, але ў суд мне ісьці няма чаго.

— Як няма чаго?—зьдзівіўся прыяцель, ізноў пасунуўшы руку ў кішэнь і выцягнуўшы адтуль ужо не газэту з артыкулам аб „дыплямацыі“, а самую звычайную судзейскую павестку аб вызаве яго ў суд сьведкаю па справе... ну, аднаго абодвым нам знаёмага ягамосьця.

— Што? гэта ўжо за дыплямацыю так хутка?—зусім зьбіўшыся з толку, спытаўся я.

— Але, здаецца, як-бы й за гэткую самую рэч, але найважней тое, што й ты павінен мець гэткую павестку,—заўважыў прыяцель.

— Не, я тымчасам яшчэ цавесткі ня маю, дый напэўна ня буду яе мець, бо аб гэтай самай „дыплямацыі“, каб ня ты, дык я й ня ведаў-бы зусім, бо „Jednaść“ я вельмі неакуратна чытаю,—трыумфуючы заявіў я,—а ўрэшце, калі на тое пашло, дык усё гэтае непаразуменьне з гэтай самай „дыплямацыяй“ граша мядзянага ня варта, бо не дарма-ж карэктара, „Jednaści“ сумленьне загрызла...

— Ага! чытаў, чытаў—яшчэ раз перабіў мяне прыяцель,—але гэта ня тое, брат, вось адтрымаеш павестку—пераканаешся, а цяпер, бывай здароў, ня маю часу.

І мой прыяцель зьнік з вачэй, як і зьявіўся: хутка і невядома на які час.

Я ня мог адразу скрануцца з месца, доўга мазгуючы, хто гэта падаў мяне ў сьведкі, бо прыяцелю, адзінаму свайму прыяцелю, прывык верыць, што ніколі мне не назводзіць; ня йшоў, а бег я дадому і сам сабе ня верыў:—Няўжо-ж сапраўды я сягоньня спаткаў прыяцеля, няўжо-ж гэта ня сон?

Толькі мароз, прабіраючы мяне праз маё, ветрам падбітае, пальто, даваў пачуваць, што я лячу, бягу, іду, а ня сплю.

Прышоўшы дадому, я спакойна сеў палуднаваць. І, як на грэх, якраз на палове майго нямудрага палудня, жонка паднясла мне кавалачак паперы, сказаўшы

— Чаго гэта ты лезеш у нейкія сьведкі? Вось маеш павестку ў суд, за якую я сягоньня расьпісалася.

Быццам гарою хто стукнуў мне па галаве. Апэтыт раптам адняло і я амаль не пракляў сябе за тое, што ажаніўся з граматнай кабетаю.

**Звончык.**

# З ПРЭСЫ.

### З конфэрэнцыі ў Празе.

„Белар. Вед.“ (№ 10 за 14. IX) зьмяшчаюць гэткую рэзалюцыю па дакладу Гуманітарнай Сэкцыі:

„Сэкцыя дапамогі ахвярам вайны і голаду, маючая ў сваім складзе прадстаўнікоў ад Беларускага Чырвонага Крыжа, ад Беларускага Камітэту дапамогі галадуючым і ад Беларускага Таварыства дапамогі ахвярам вайны, просіць Беларускую Нацыянальна-Палітычную Нараду давесьці да ведама ўсяго сьвету, што:

1. З 1914—1917 гадоў тэрыторыя Беларусі была арэнаю жастокіх боек паміж Расейскай і Нямецкай арміямі. У працягу гэтых трох страшных гадоў імпэрыялістычнай бойкі дабрабыт нашага народу і яго гаспадарка зусім зруйнаваны.

2. Па Брэст-Літоўскай умове, падпісанай паміж Расеяй і Нямеччынай проціў волі і галасных протэстаў нашага народу, Беларусь была аддадзена пад цяжкую окупацыю нямецкай арміі, якая зрабіла з гэтай окупацыі цяжкую кабалу для нашага краю і народу, страшэнна іх разарыўшую.

3. Пасьля адходу нямецкіх войскаў, зараз-жа ім на зьмену прыйшла яшчэ горшая і яшчэ цяжэйшая окупацыя імпэрыялістычнай Польшчы.

Мала таго,—ў той час, як іншыя народы, як чэскі, бэльгійскі, літоўскі і іншыя, абясьсіленыя імпэрыялістычнай вайной, змаглі, пасьля Вэрсальскага міру, жыць спакойна і аднаўляць свой дабрабыт,—Беларусь захапіла новае цяжкое гора: яна стала арэнай новай імпэрыялістычнай бойкі паміж Савецкай Расеяй і Польшчай, і зноў многапакутны Беларускі край задыміўся пажарамі і абліваўся крывёю.

4. Па Рыскаму трактату Беларусь цынічна падзелена паміж Савецкай Расеяй і Польшчай, якія сьвядома вядуць Беларускі Народ да поўнага матар‘яльнага і духоўнага ўпадку.

5. У часе сусьветнай вайны каля 2.000.000 беларускіх жыхароў Горадзеншчыны і Віленшчыны былі прымусова выселены ў глыбіню Расеі, ў Сыбір, Туркестан і Каўказ, дзе яны ўжо сем гадоў жывуць у галіце і страшэнных няхватках і ня маюць ніякай магчымасьці вярнуцца на Бацькаўшчыну.

У працягу гэтых мінулых гадоў Расейскі Савецкі і Польскі ўрады ня толькі не дапамагаюць нашым бежанцам вярнуцца ў Родны Край, але наадварот—робяць усялякія перашкоды іх звароту ў Беларусь. А цяперака, калі ад жаху перад галоднаю сьмерцю ў Паваложы, дзесяткі тысяч бежанцаўбеларусаў рынуліся на Бацькаўшчыну, Польскі Урад ня пускае іх праз граніцу і абракае ўсіх іх на галодную сьмерць у пагранічным дроце. Тым беларускім бежанцам, якія нягледзячы на польскія заставы і рызыкуючы сваім жыцьцём, прабіраюцца на родную зямельку, тым, якія, вярнуўшыся дамоў, знаходзяць спаленымі да-тла свае вёскі і хаты, а на сваёй зямельцы бачаць новага гаспадара—польскага жаўнера, пасаджанага сюды Польскім Урадам, тым беларускім уцекачом, якія гэткімі парадкамі змушаны жыць і карміцца, пабіраючыся ў суседніх вёсках,—гэтым беларускім мучальнікам не даецца ніякай абсолютна дапамогі, хоць у тойжа час дапамагаецца бежанцам расейскім і частцы украінскіх.

6. Дзесяткі тысячаў сыноў Беларусі, прымусова ўзятых у расейскае войска, ходам падзеяў апынуліся цяперака ў концэнтрацыйных лагерах Турцыі, Баўгарыі і Сэрбіі.

7. Сотні лепшых сыноў нашай Бацькаўшчыны сядзяць цяперака ў бальшавіцкіх і польскіх турмах і церпяць голад, холад і варожыя зьдзекі над іх нацыянальным пачуцьцём.

Сучаснае становішча Беларускага Народу невынасіма цяжкое ня толькі таму, што вытрымаў ён дзьве страшэнных вайны, ня толькі таму, што ён і да гэтага году церпіць ад варожых окупацыяў, але яшчэ і таму, што Эўропа нічым не дапамагла яму падняцца з мук і няволі, а ўвесь культурны сьвет і да гэтага часу застаецца бязучасным і спакойна глядзіць на мукі беларускага народу.

Нягледзячы на невынасіма цяжкое становішча беларускіх уцекачоў у Расейскіх бальшавіцкіх турмах і на прымусовых работах, а таксама ўцекачоўбеларусаў, зьвярнуўшыхся ў родны край пад польскую окупацыю,—ні Расейскі Савецкі, ні Польскі ўрады не дазволілі беларускім дабрачынным арганізацыям і установам зрабіць абсьледаваньне іх і прыйці ім на помач.

Беларуская Нацыянальна-Палітычная Нарада ў Празе зварочваецца да ўсіх культурных нацыяў, да ўсіх грамадзянскіх і дабрачынных арганізацыяў і установаў, а ў першую чаргу да Жэнэўскага Міжнароднага Чырвонага Крыжа, з гарачай просьбай дапамагчы Беларускаму Народу праз яго дабрачынныя арганізацыі“.

### „PRZESILENIE“ (КРЫЗЫС).

З прычыны пагрозы Начальніка Польскай Дзяржавы Пілсудскага адстаўкаю праз тое, што Сойм расходзіцца з ім у паглядах на спосабы разрашэньня лёсу Віленшчыны, „Robotnik“ (№ 307) пад назваю „Przesilenie“ зьмясьціў агляд прабегу гутарак аб гэтым пытаньні на сходзе прадстаўнікоў соймавых фракцыяў, дзе зьвярнулі на сябе ўвагу выступленьні зн-дэка Гломбінскага і пэ-пэ-эса Дашынскага. Выступленьні гэтыя „Robotnik“ перадае так:

„П. Гломбінскі займае адмоўную пазыцыю да ўрадовага,—(згоднага з думкай Пілсудскага—Рэд.),—проекту. Адстаўка Начальніка Дзяржавы не пагражае Польшчы ніякім пабоем, а ні ў адносінах унутраных, а ні ў заграничных. Кожны чалавек ёсьць сьмяртэльны і праз

# Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.

**(Рэфэрат, чытаны ў Лодзі для афіцэраў Беларускіх Вайсковых Аддзелаў і служачых Беларускай Вайсковай Камісіі 8 лістапада 1920 г.).**

(Гл. № 20).

Рэч зусім зразумелая, што выбраўшы сваёю часоваю рэзыдэнцыяю сталіцу Чэхаславацкай Рэспублікі—Прагу, Рада Народных Міністраў Б. Н. Р. не магла на эміграцыі заняцца іншаю, як дыплёматычная, працаю. Старшыня міністраў Луцкевіч быў выкліканы французамі ў Парыж і падаў мэморыял аб Беларусі на міравую конфэрэнцыю, рэшта сяброў Рады Міністраў прабывала у іншых зах.-эўропэйскіх сталіцах, арганізуючы там прадстаўніцтвы Беларусі. Старшыня Рады Рэспублікі Лёсік заставаўся ў Менску і пры бальшавіках. Да Менску, па забраньні яго палякамі, даходзілі толькі неясныя чуткі аб працы Рады Міністраў заграніцаю і Рада Рэспублікі зьбірацца не сьпяшалася, ня маючы пэўных вестак аб працы Ураду. Першым з народных міністраў вярнуўся ў Менск Смоліч, ад якога й былі адтрыманы інформацыі пра ўрадовую працу. Патрэба скліканьня Рады была відочнаю, бо палякі трымаліся, як сапраўдныя окупанты. Вядомы ўжо нам бабруйскі шляхціч Фастовіч-Загорскі быў назначаны палітычным інспэктарам Менскага вокругу, а ўласная яго жонка служыла ў тэй інстытуцыі, дзе падаваліся на цэнзураваньне тэатральныя п‘есы перад іх пастаноўкаю. Гэткая нявінная камэдыя Янкі Купалы, як „Паўлінка“ ня была пазволена да пастаноўкі і ставіўся аўтору варунак зьмяніць у ёй некаторыя месцы. Быў здаецца забаронены і „Модны шляхцюк“ Каганца. Тамавалася п. Фастовічам-Загорскім і агітацыя за паступаньне беларускае моладзі ў сваё беларускае войска, аб чым быў даны сэкрэтны цыркуляр. Ня гледзячы на папярэднюю цэнзуру, рэдакцыя штодзеннае газэты „Беларусь“ разоў два была равідована жандарамі, а рэдактар і некаторыя супрацоўнікі цягнуліся пад суд. Польскія нацыяналістычныя арганізацыі, як напрыклад „Страж Крэсова“ тымчасам адкрыта вялі сваю пропаганду прылучэньня да Польшчы („wcielenia do Macierży“). Паўстаньні, якія іншы раз праяўляліся ў провінцыі, караліся з усёю жорсткасьцю ваеннага часу.

Нарэшце-такі Рада Рэспублікі сабралася ў 10 чыслах лістапада 1921 г. на першае пры польскай окупацыі пасяджэньне, якое амаль ня скончылася поўным скандалам, бо зусім не падгатаваўшыся Прэзыдыум Рады запрапанаваў пасьлаць Начальніку Польскай Рэспублікі Пілсудскаму прывітальную тэлеграму, проці чаго рашуча выступіла фракцыя эс-эраў, агаласіўшы з трыбуны рэвалюцыйную дэклярацыю.

Трэба ад‘значыць, што ў Вільні палякамі быў пазволены беларускі Зьезд з Віленшчыны і Горадзеншчыны, на якім была выбрана Рада, падтрымаўшая цалкам Раду Рэспублікі і пастанавіўшая цалком увайсьці ў яе склад. Віленскі Зьезд адбыўся шмат раней да забраньня палякамі Менску. Прапускі, без якіх нельга было праехаць з Вільні ў Менск, даваліся палякамі далёка ня ўсім сябром Рады Віленшчыны й Горадзеншчыны, што моцна нэрвавала беларускае грамадзянства наагул.

У часе першага пасяджэньня Рады Рэспублікі ў лістападзе 1919 г. Старшыня міністраў Луцкевіч ужо знаходзіўся ў Варшаве, куды быў выкліканы з Парыжа польскім прэм‘ерам Падэрэўскім, як быццам дзеля паразуменьня. Аднак, прасядзеўшы ў Варшаве каля двох месяцаў і пабываўшы разы два навет у Пілсудскага ў Бэльвэдэры, Луцкевіч ніяк ня мог дачакацца аудыенцыі ў Падэрэўскага і так і не дачакаўся яе зусім; адтрымаўшы пропуск на выезд у Менск, Луцкевіч прыбыў туды, калі ў сярэдзіне самой Рады Рэспублікі пачаліся ўнутраныя непаразуменьні, быць можа аднекуль і інсьпіраваныя. Частка соцыяльдэмократаў і правыя радныя дадумаліся да утварэньня як-бы замест Рады Рэспублікі нейкае Дырэкторыі або „Найвышэйшае“ Рады з некалькіх асобаў, на што ніяк не магла згадзіцца гэткая дужая лікам фракцыя радных, як беларускія соцыяль-рэвалюцыянэры, лічыўшыя ўсякія гутаркі аб Дырэкторыі здрадаю.

Калі 13 сьнежня 1919 году ізноў сабралася Рада, дык абодва кірункі так моцна разыйшліся, што Рада Рэспублікі раскалолася на дзьве, амаль што роўныя, часьці. Эс-эры й соц.-фэдалістыя засядалі ў заўсёдным будынку Рады, як Рада Рэспублікі, выбіраючы новы прэзыдыум Рады і творачы новую Раду Народных Міністраў з Вацлавам Ластоўскім на чале. Частка эс-дэкаў і правыя засядалі недалёчка ад будынку Рады ў прыватнай кватэры старога дзеяча Аляксандра Ўласава, творачы Дырэкторыю пад назовам „Найвышэйшая Рада“ з кабінэтам міністраў Луцкевіча. Ніякія спробы паразуменьня паміж абодвума кірункамі ні да чаго не давялі і раскол 13 сьнежня 1919 г. адбыўся. Засядаўшыя ў кватэры Ўласава, выбралі ў Найвышэйшую Раду: Лёсіка, Рак-Міхайлоўскага, Сераду, Ўласава і Цярэшчанку, а засядаўшыя ў будынку Рады зрабілі поўны пераварот, стварыўшы Раду Народных Міністраў Ластоўскага і выбраўшы новы Прэзыдыум Рады Рэспублікі.

Цікава, што ў той час, як Найвышэйшая Рада і ўсе сябры пасяджэньня ў кватэры Ўласава сядзелі спакойна цэлы час польскай окупацыі ў Менску, Ластоўскі з некаторымі сваімі таварышамі па эс-эраўскай партыі, ў якую ён увайшоў, былі адміністрацыйна пасаджаны Начальнікам Менскага вокругу Рачкевічам у вастрог за... незаконны сход і адсядзелі хто месяц, а хто і больш.

Выйшаўшы з вастрогу, пад надзор паліцыі, Ластоўскі ўцёк у лацьвійскую сталіцу Рыгу. Сябры партыі соцыялістых-фэдэралістых Крачэўскі й Захарка ўцяклі ад арышту заграніцу, не папаўшы такім чынам у менскі вастрог на Серпухаўскую вуліцу. Ўцёкшы заграніцу, Ластоўскі пачаў зусім зразумелую проціпольскую палітыку там, пакінуўшы на Бацькаў

гэта выбар новага Начальніка Дзяржавы не зьяўляецца ні якай труднасьцю. Некарысная аб Польшчы опінія вынікае з таго, што ёсьць у нас два ўрады. Начальнік Дзяржавы мусіць прытарноўвацца да соймавых пастановаў. Заграмічная опінія ня важная, бо жаданьне пашырэньня выбарчага абшару было падсоўвана праз польскі ўрад ураду францускаму і ангельскаму".

„Тав. Дашынскі зьвяртае ўвагу, — піша „Robotnik" — што польскі ўрад тройчы ў 1920 г. зрабіў віленскую справу рэчаю міжнародных перагавораў. П. Ул. Грабскі ў Спа зрокся Вільні. Падэрэўскі сваім подпісам гэтае зрачэньне зацьвярдзіў, а быўшы міністар заграмічных справаў, Сапега, ў верасьні 1920 г. запрапанаваў віленскую справу Лізе Народаў. Арт. 3 рыскага прэлімінару і міравога трактату сьцьвярджае, што справа земляў, абнятых літоўска-бальшавіцкаю умоваю з 12 ліпня 1920 г. ёсьць справаю, якую паміж сабою павінны залагодзіць Польшча й Літва ковенская. Два проекты Гюманса, дэбаты ў Лізе Народаў і офіцыяльныя ноты Англіі і Францыі устанавілі міжнародны характар гэтае справы.

Праз гэта тав. Дашынскі выказвае зьдзіўленьне, як п. Гломбінскі мог быць некалі навет некалькі тыдняў міністрам заграмічных справаў ураду Рэгэнцыйнае Рады і некалькі месяцаў аўстрыйскім міністрам, калі цяпер хоча з польскае палітыкі на міжнародным полі зрабіць дом вар'ятаў, людзей непачытальных, якія самі сабе пярэчаць"...

Далей, паміж іншым, пасол Дашынскі спамінае ўсімі пахаваную адозву Пілсудскага з 22. IV. 1919 г. гэткамі словамі:

„Начальнік Дзяржавы мае права і абавязак перасьцерагаць ўрадовае польскае палітыкі ў справе Віленшчыны ня толькі, як Н—к Дзяржавы, але і як той, які ў адозьве з 22 красавіка 1919 г. ўрачыста абяцаў насяленьню Віленшчыны права самаазначэньня"...

Пан Дашынскі крыху памыляецца, ці сумысьля запамінае, што сказаная адозва была выдана не да насяленьня аднае толькі Віленшчыны, а да „жыхароў быўш. Вял. Князьства Літоўскага", ну, а ў гэтым пэўна-ж зьмест крыху.. шырэйшы.

Хаця-ж, навошта спамінаць мінулае..

Грамадзяне, спаўняйце сваю павіннасьць, запісуйцеся ў „Т-ва Беларускае Школы"!

# Палітычная хроніка.

*Пятніца,* 11 *лістапада.*

— Сягоньня ў камісіі Польскага Сойму па заграмічных справах мае абгавараваацца віленскае пытаньне.

— Амэрыканскі прэзыдэнт Гардынг урачыста прыняў у Белым Доме францускага прэм'ера Брыяна.

— У польскай народнай партыі (P. S. L.) пастаноўлена, што адпавядальнасьць за дагавор з Караханам цалком кладзецца на ўрад, а асабліва на міністра заграмічных справаў Скірмунта.

— Польскі міністар унутраных справаў Даўнаровіч выпрацоўвае спосабы пільнаваньня граніцаў.

— Чычэрын заявіў, што нязвычайныя эканамічныя труднасьці змусілі Расею зьвярнуцца да захадняга капіталізму і што сучасная заграмічная палітыка радаў грунтуецца на сусьветных эканамічных інтарэсах, а не, як раней, на доктрынах.

— Польская партыя P. S. L. падала ў Сойм проект, перасьцярагаючы, што сучасная польская палітыка носіць панславіцкі, шкодны для гаспадарства, характар.

— Польская рада міністраў прыняла проект закону аб падатку на даходы, аб гандлі заграмічнымі валютамі і аб спосабах папраўленьня дзяржаўных фінансаў.

— Нямецка-польская камісія скончыла работу ў паўночнай часьці Верхняе Сьлезіі і пасьля гэтага пачне размежаваньне прамысловага раёну.

— У зьвязку з чацьвёртымі ўгодкамі бальшавіцкай рэвалюцыі ў Расеі, варшаўскія камуністыя замерваліся зрабіць вялікую дэмонстрацыю. Каля 60 асобаў былі арыштованы паліцыяй і дэфэнзываю.

— У Японіі творыцца новы кабінэт. Прэм'ерам мае быць барон Макіно.

— У Варшаву прыяжджае з Гданску дэлегацыя Лігі Народаў дзеля зьведаньня гаспадарчага палажэньня Польшчы.

— Старшыня нямецкага парлямэнту сказаў прамову аб патрэбе зьмяшчэньня саюзьніцкіх дамаганьняў з прычыны страшэннага палажэньня Нямеччыны.

— Недабор аўстрыйскага скарбу дасягае 140 мільярдаў кронаў, даўгі 600 мільярдаў.

— У Рыгу прыбыла першая партыя вэнгерскіх закладнікаў на замену 400 вэнгерскіх камуністых, што сядзяць у вастрозе ў Будапэшце.

— Ангельскі мэморыял аб асобным міры з кэмалістымі паданы Францыі. Ангельскі ўрад цьвердзіць, што француская згода з кэмалістымі зьяўляецца сэпаратным мірам, які аслабляе аўторытэт Францыі ўва ўсходнім пытаньні.

*Субота,* 12 *лістапада.*

— Сэрбскія войскі, ня гледзячы на перасьцярогу Рады Лігі Народаў, пасоўваюцца ў глыб Альбаніі, забіраючы новыя мясцовасьці. Альбанцы адходзяць перад сэрбамі. У справу мае незабаўна ўмяшацца Ліга Народаў.

— Францускі прэзэс міністраў Брыян зьвярнуўся з пісьмом да амэрыканскага народу, паміж іншым заяўляючы, што ў Францыі і Злучаных Штатаў няма непаразуменьняў.

— 10. XI адбылося сэкрэтнае пасяджэньне польскае рады міністраў па віленскім пытаньні.

— Амэрыканскі ўрад адказаў бальшавікам на ноту аб прызнаньні даўгоў, згаджаючыся пачаць перагаворы, але з варункам, што ўнутраная палітыка ў Расеі будзе зьменена і расейскім грамадзянам будуць забясьпечаны конституцыйныя свабоды. Амэрыканцы трэбуюць зьнішчэньня чразвычаек і тэрору,

— 7 лістапада савецкае пасольства ў Варшаве зрабіла прыём у Рымскім готэлі з прычыны чацьвёртых угодкаў істнаваньня савецкае ўлады ў Расеі

— Дзеля таго, што Нямеччына сыстэматычна ўхіляецца ад таго, каб плаціць ваенныя страты, францускі ўрад проектуе новыя нарады саюзьнікаў дзеля апрацаваньня спосабаў прымусу.

*Нядзеля,* 13 *лістапада.*

— Гэтымі днямі ў Варшаву прыяжджае палкоўнік Шардыні, які зьбіраецца інспэкцыйна аб'ехаць нэйтральную зону паміж Польшчаю й Літвою.

— Вэнгрыя афіцыяльна паведаміла Чэхаславакію й дзяржавы Малое Антанты, што споўніць прыказ Вялікай Антанты і прыме дадатковы закон аб дэтронізацыі, якая не пазволіць Габсбургам заняць вэнгерскі пасад.

— Павадыр Чарнагорскіх паўстанцаў Марковіч абвясьціў незалежную Чарнагорскую рэспубліку.

— Польская рада міністраў на пасяджэньні 10 лістапада прыняла проект закону аб барацьбе з камунізмам.

— Вашынгтонская конфэрэнцыя пачнецца з вялікае прамовы прэзыдэнта Гардынга на першым пасяджэньні. Адозва Брыяна зрабіла ў Амэрыцы моцнае ўражаньне.

— Лейд-Джордж заявіў, што калі ірляндзкая конфэрэнцыя не давядзе да мірнага рашэньня пытаньня, дык Англіі будзе вельмі цяжка.

— У рэспубліцы Далёкага Усходу вялікія аграрныя непарадкі. Рэгулярныя і японскія войскі робяць спатычкі з аддзеламі паўстанцаў. Чакаецца пераварот.

— Сэкрэтарыят Лігі Народаў паведамляе, што бліжэйшае пасяджэньне Лігі 18 лістапада займецца альбанскім пытаньнем.

— У Варшаву прыехала фінансавая дэлегацыя Лігі Народаў у ліку 5 чалавек. Прадстаўнік Польшчы пры Лізе Альшоўскі рабіў на чэсьць дэлегацыі банкет.

— Ня гледзячы на паведамленьне бальшавікоў аб усьмірэньні паўстаньня Пятлюры, паўстаньні дзеня-дзе адбываюцца. Камянец-Падольск заняты бальшавікамі, але ўлады жывуць яшчэ ў вагонах, баючыся сялянскага паўстаньня.

— Нямецкі канцлер Вірт пратэстуе проці голасу заграмічнае прэ-

шчыне больш-менш шырокае моральнае падтрыманьне беларускага грамадзянства.

А Найвышэйшая Рада тымчасам засталася круглаю сіратою ў сваёй абывацельскай палітыцы, амаль ня выткнуўшы свайго носу далей Менску, памятнай кватэры Уласава ды яшчэ гасьціннага дому Серады. Ніякага абвяшчэньня аб сваім істнаваньні Найвышэйшая Рада ні разу ня выпусьціла, хаця розныя пустыя размовы з палякамі вяла, ўдарыўшыся ў тайную дыплёматыю. А тымчасам Ластоўскі выдаў аб здарэньні 13 сьнежня нелегальную дэкларацыю, распаўсюджыўшы яе праз партыйны апарат, дзе толькі мог.

Калі прадстаўнікі Найвышэйшай Рады прабавалі заяўляць гэнэралу Шэптыцкаму кабінэтны протэст проці крывавых усьмірэньняў паўставаўшых вёсак, дык гэнэрал адказваў, што ён можа ўсю Беларусь разам з Менскам спаліць, калі гэтага трэ' будзе для Польшчы. Менск сапраўды дачакаўся спаўненьня словаў гэнэрала Шэптыцкага і апынуўся ў страшэнным пажары пры пакіданьні яго палякамі.

Яшчэ ў маі месяцы 1920 г. на фронце Беразіны было неспакойна. Бальшавіцкая армія зрабіла моцны націск у кірунку Маладзечна, на гэты раз спрытна адбіты польскаю арміяй. А праз які адзін месяц у канцы чэрвеня, ці ў пачатку ліпня бальшавікі павялі гэтак моцнае наступленьне, што ў дзесятыя чыслы ліпня Менск перайшоў у іх рукі.

Палітычная прычына нястойкасьці польскае арміі, што шпарка адступала аж да Варшавы, зусім ясная. Пазнанскі жаўнер, стоячы на Беразіне і чуючы на тылах сваіх неспакой і усьмірэньні беларускага насяленьня, якое вялі яго вызваляць ад бальшавікоў, ня мог зразумець чаму насяленьне гэтае так няўдзячнае для яго—і дух моцных пазнанскіх аддзелаў, прастаяўшых бяз бою на чужой зямлі, моцна падупаў. Пад Варшаваю нязвычайны патрыятычны энтузіязм палякоў адкінуў бальшавікоў ізноў аж да Менску, нязвычайна моцна разьбіўшы іх.

Ясна, што й Найвышэйшая Рада, як такая ў Менску не засталася, а пераехала ў Варшаву амаль што ў асобе аднаго толькі Цярэшчанкі, які з Варшавы езьдзіў у Рыгу дзеля перагавораў з Ластоўскім, дакляруючы здаць яму ўсе мандаты.

Гэткім чынам Найвышэйшая Рада сама сябе ліквідавала. Калі ў Менску яна была паляком так, ці йначай патрэбнаю, дык у Варшаве ня было ўжо ў ёй патрэбы навет і для дыплёматыі.

Паездка ў Рыгу Цярэшчанкі магла, праўда, трактавацца Найвышэйшаю Радаю, як дэлегаваньне яго на польска-бальшавіцкія міравыя перагаворы, якія там пачыналіся, але аб прадстаўніцтве там падумаў і Ластоўскі.

Пры гэткім палажэньні трэ'было-б зусім страціць розум, каб дабівацца прадстаўляньня антыбальшавіцкай Беларусі на міравой конфэрэнцыі ад двох розных урадаў. А ня трэба запамінаць, што з бальшавіцкага боку ад імя Беларусі на нешта быў выпісаны старшыня менскіх камісараў Чарвякоў.

Пратэндаваньне Найвышэйшае Рады на ўладу і тайная яе работа далі толькі поўны прастор тварэньню беларускіх урадаў усімі, хто толькі на гэта не лянуецца.

Гэтак, напрыклад, цяпер, калі з Савінкавым пайшоў праз Беларусь ваяваць з бальшавікамі Балаховіч, дык быўшы віцэ-старшыня Вайсковай Камісіі Паўлюк Аляксюк скомбінаваў пры арміі Балаховіча беларускі кабінэт міністраў з Адамовічам на чале.

Ня прызнаўшы Беларусь тады, калі аж па Беразіну яна была ў руках польскага войска, Польшча прызнала яе ў Рызе, аб чым ясна пішацца ў дагаворы з бальшавікамі. Відочна незалежнаю Беларусь прызнаецца Польшчаю толькі, як Савецкая, зробленая бальшавікамі.

Лінія рыжаскага міру дзеліць Беларусь на кавалкі і па гэты (захадні) бок рыжаскае лініі мы нічога ня чуем аб незалежнай Беларусі, калі ня лічыць проклямацыяў аб ёй Балаховіча ды ўраду пры ім Адамовіча, праўдзівей Аляксюка.

Усё, што рабілася Ўсебеларускім Зьездам і Радаю Рэспублікі, як спадчына перайшло на Раду Народных Міністраў Ластоўскага, да голасу якой наймацней будзе прыслухвацца беларускае грамадзянства, як да Ураду, для яго законнага. Урад пры арміі Балаховіча разваліцца разам з яе ваеннымі няўдачамі, як разваліўся ўжо падобны ўрад, твораны й раней нейкім Бахановічам у Адэсе ў часе прабываньня заграніцаю кабінэту Луцкевіча.

Прынцыпіяльна прызнаная ў Рызе як палякамі, так і бальшавікамі н е з а л е ж н а ю, Беларусь сапраўды рыжаскім мірам разрэзана, але-ж гэта ня значыць, што яна забіта насьмерць.

**Краўцоў Макар.**

(Канец).

# Восень.

Паспадалі жоўты лісьця
З галінак дзярэў;
На край сьвету, ў сіне мора
Плач іх паляцеў...

„Чаму плачаце?" — пытае
Сіне мора ў іх —
„Ці няхват вам сьвету сонца,
Кропель дажджавых?".

— Не, нічога — сонца сьвеціць,
Дождж нядаўна йшоў —
Толькі ў грунце, дзе расьлі мы,
Чырванее кроў...

7. IX. 1921. **Гальяш Леўчык.**

цыі. Лік падпаўшых пад амністыю дасягае 30.000 чалавек. Аднак выпушчаныя на волю пакідаюцца пад бліжэйшым наглядам паліцыі.

— Паўстанчы рух на Украіне ня ўціхае. Уначы з 9 на 10 лістапада паўстанцамі раптоўна заняты Тырасполь, бальшавікі ўцякаюць у кірунку Адэсы, але сяляне нішчаць іх.

— Японія патрэбавала на вашынгтонскай конфэрэнцыі зьнішчэньня марскіх базаў Злучаных Штатаў і зьнішчэньня ўсіх ваенных караблёў, як пагрозы міру ў Азіі.

— Француская прэса прылучаецца да заявы Брыяна, што Францыя раззброіцца, калі вялікія дзяржавы гарантуюць незачэпнасьць яе граніцаў.

— Бальшавіцкі ўрад уважна сочыць за ходам працы вашынгтонскай конфэрэнцыі, тым больш, што на яе закліканы прадстаўнік рэспублікі Далёк. Усходу.

— З Вашынгтону перадаюць, што Бальфур выкажа на конфэрэнцыі згоду Англіі на раззбраеньне.

— Мілюкоў назначаны экспэртам па справах Далёкага Усходу на вашынгтонскай конфэрэнцыі.

— „Известия“ пішуць, што ёсьць надзея на добрыя адносіны паміж Нямеччынай і Расеяй.



# Жыцьцё провінцыі.

## Чаму ў нас няма беларускіх школ.

**М-ка ВАЛОЖЫНА, Валожынскага пав.**

Прыпомнім недалёка мінулы леташні 1920—21 школьны год, у пачатку якога ў нашай мясцовасьці была значная сетка беларускіх школ. Гэты год павінен быць памяцен для кожнага беларуса, бо ён многім сказаў, што трэба рабіць. Кожнаму з нас вядома, што ўсё, зьявіўшыся на сьвет Божы, расьце ўва ўсе бакі і дае новае пакаленьне. Дык чаму-ж нашая школьная сетка, толькі што зьявіўшыся, на другі год, замест таго, каб пашырыцца, зусім зьнішчылася? Няўжо на яе так скора прыйшоў канец? А ніколі— гэта няпраўда. Я думаю, шмат хто перакананы ў тым, што гэта ёсьць толькі часовая хвароба, пасьля якой нашая школьная сетка борзда расшырыцца і будзе жыць вякамі. Дык якая-ж прычына гэтай хваробы і хто тут вінаваты?

Дагэтуль амаль ня кожны нумар беларускае газэты віназаціў толькі школьных інспэктароў за тое, што яны не даюць беларусу яго школы. Мусіць-то школа мае вялікую вартасьць у народу, калі за яе падымаюць гэтакі гвалт.

Але вельмі шкада, што гэтую вартасьць ня ўсе аднолькава шануюць і разумеюць. Ведама, што школа мае вялікую вартасьць, асабліва ў нацыянальным адраджэньні, гэта ёсьць найлепшая машына ў нацыяналізацыі. Кожнаму ўжо зразумела, што зрабіла беларуская школа ў 1920—21 школьным годзе. Да гэтага году мала хто з сялян разумеў, што гэта ёсьць за беларуская школа. А сёлета, пасьля 1920—21 школьнага году, амаль ня ўсе сяляне выйшлі на барацьбу за сваю школу. Яны ўжо добра зразумелі, што свая, беларуская, школа ёсьць найкарысьнейшая для іх дзетак. І калі Валожынскі школьны інспэктар пачаў рассылаць па беларускіх школах на месца звольненых іх вучыцялёў, польскіх вучыцялёў, дык грамадзяне такіх не прынялі і адкрыта заявілі, што ім польскія школы непатрэбны.

Несьвядомаму беларусу мо' здаецца, што-ж такое, калі ў яго вёсцы польская школа і польская-ж ёсьць навука, дык няхай сабе і вучацца. Але гэтак павінна здавацца толькі несьвядомаму беларусу, а сьвядомы, павінен на гэтую справу паглядзець трошкі йначай. Мы бачым, што палякі вельмі баяцца беларусу даць яго школу, дзеля таго, каб ён праз школу не пазнаў сябе, а як і дагэтуль каталік лічыў сябе паляком, а праваслаўны—рускім.

Польская школа ў беларускай вёсцы лічыцца палякамі іх гняздом. Дзеля таго, што школа па агульнаму рассудку, мусіць быць пажаданая народам і калі нейкая беларуская вёска пажадала-б польскае школы, дык гэта і значыла-б, што гэтая вёска хоча польшчыны. У палякоў так і лічыцца, што наш Валожынскі павет жадае ўсяго польскага, бо ў ім ўсе польскія школы. Дык чаму гэта так? Нашы грамадзяне з усіх сіл змагаюцца за сваю беларускую школу, а палякі лічаць іх сваімі прыхільнікамі? А вось чаму. Школьная справа, ад школьнага інспэктара быццам перададзена валасным радам. Валасныя рады, гэта-ж здаецца павінны быць народныя рады, але шкада, што гэтыя рады злажыліся з людзей, як: паноў, ксяндзоў і інш. (прычына вядомая), якія ня лічацца з патрэбамі народу, а з польскай палітыкай. Дык вось гэтыя валасныя рады паадчынялі па нашых вёсках польскія школы, незварочаваючы ўвагі ні на якія грамадзянскія просьбы аб беларускай школе. А ці-ж гэта справядліва? Няхай-жа яны хоць у аднаго селяніна папытаюць, ці хоча ён польскае школы. Не, гэтых школ ніхто не жадае, яны ўсім навязаны начэпна. Дык хто, хто-ж тут вінаваты, што нас палякі так гладка абходзяць?

У гэтым вінаваты не адны школьныя інспэктары, ды валасныя рады, а беларускія вучыцялі. Яны вушы маюць слухаць і ня чуюць, вочы маюць глядзець і ня бачаць, розум маюць і не разумеюць. Дык у чым-жа ёсьць тут прычына, што нашыя вучыцялі абязброены сваімі пачуцьцямі? На гэтае пытаньне вельмі лёгка даць адказ. Яны іх прадалі паляком, а разам з імі прадаюць і нашы вёскі. Ведама, каб не яны, ў нас-бы ня было польскіх школ, гэта мы бачым з вышэйнапісанага, што калі Валожынскі школьны інспэктар стаў прысылаць на вёскі польскіх вучыцялёў, дык людзі адмовіліся ад іх. І калі гэта ўбачыў п. інспэктар, што людзі так няпрыхільна адносяцца да польскіх вучыцялёў, дык ён і зьвярнуўся да беларускіх вучыцялёў, каб тыя паадчынялі заняткі ў польскіх школах. Нашы вучыцялі, каб не папсаваць адносін з. п. інспэктарам ахвотна прыняліся за працу ў польскіх школах, навет ні водзін не напісаў просьбы інспэктару аб беларускай школе. Грамадзяне, як сваімі вучыцялямі, імі ня хочуць брыдзіцца, а іншыя навет думаюць, што яны будуць вучыць пабеларуску, пускаюць у школы сваіх дзяцей і дзела йдзець, як па масьле. Школьныя інспэктары, каб дабіцца свае мэты, стараюцца патрапляць нашым вучыцялём. Па іх рэкамандацыі інспэктар можа залічыць у польскую школу хоць якога невыкваліфікаванага вучыцеля. Вучыцель можа браць сабе ў памоцнікі і залічаць у інспэктара на пэнсію каго хоча.

Паважаныя грамадзяне вучыцялі, ці апомніцеся нарэшце, што вы робіце. Не такая ўжо была-б крыўда, каб гэта рабіў хто чужы, а то, як тая бяроза казала: шчапаюць мяне, ды яшчэ маім суком, дык надта-ж баліць. Шмат хто з нашых вучыцялёў за чужую расейскую ўладу і культуру сядзелі ў акопах, у турмах, пакутавалі ў нямецкім палоне, і навет іншыя засталіся на век з ваеннымі сінякамі, але нішто ня прывучыла іх да барацьбы за сваё роднае. Расейская школа добра абдурніла іх і прывучыла працаваць на чужацкіх нівах і ненавідзець, зьняважаць сваю. Але, грамадзяне-беларусы, хто ўмее шанаваць сваю бацькаўшчыну, хто ня чураецца мовы сваіх бацькоў, той няхай ня йдзе за гэнымі адшчапенцамі. Верце, што не ў далёкай будучыні і ў нас настане вясна і наша ніўка зацьвіцець прыгожанькімі красачкамі!

А. М.

---

## Сьляды царскае гаспадаркі.

**ВЯЛЕЙСКІЙ ПАВЕТ.**

Аж рвецца сэрца ад болю, калі глянеш, скольki нашага дабра згінула пры праклятай памяці Мікалаі II. Не шкадавалі нашага багацьця, раскідаліся ім поўнай жменяй дзе трэба і дзе ня трэба.

Еду па шляху ад м. Крайска да Вялейкі. Ад вялікай вёскі Старынак пачынаецца бор. Бедныя пескавыя грунты. Што там за ўзгорак відаць далей у бары, які без канца цягнецца істужкай, крыўляючыся ў розныя бакі? А то акопы. Ў іх не ваявалі, але выкапаны яны „на ўсякі выпадак“. Адразу відаць, як ахвочая рука сапёра не шкадавала тут лесу. Ён насечан бяз ніякага парадку, многа ёсьць няўжытага, каторы валяецца грудамі тут-жа. А скольki баракаў, бліндажоў... Еду далей.

Вось калючы дрот і далей ужо мусіў немец займаць сабе фронт. Бяз жалю ня можна глянуць на гэты „нямецкі“ бок; лес высечаны да пня, рэдка, рэдка стаяць хвоечкі. Вецер без перашкоды гуляець тут і адзінокія хвоечкі жаласьліва шумяць, як-бы жаляцца небу на людзкую несправядлівасьць. На зямлі грудамі валяецца сьсечанае дрэва. І скольki шкоды зрабілі няўмелыя рукі! Дый ці жаль было грубым, цёмным, чужым людзям нашага скарбу, нашай пекнаты—лесу, каторы высака і горда пады-

---

шае, гарачае каханьне! Я хадзіла да споведзі, прымала камунію і доўга і шчыра малілася і прасіла ў малітвах сваіх, каб Бог даў мне гэныя словы, але Ён ня чуў мусі малітвы мае. Чаму я маўчала? Ты ня ведаеш, Сьцёпа, кім ты быў для мяне. Я глядзела на цябе, як на істоту, вышэйшую за ўсіх людзей, амаль незямную. Твае гутаркі аб нядолі людзкой, аб горы тых, забытых Богам, людзкіх масаў, творачых багацьцё гэнага сьвету і жывучых у нядолі і паняверцы, былі для мяне нейкай песьняй чароўнай, каторую, я, бедная работніца, пачула першы раз. Твае словы аб роўнасьці й братэрсьцьве ўсіх людзей выцягвалі мяне з глыбі майго маркотнага бяздольнага жыцьця і падымалі мяне на тую вышыню, дзе стаяў ты, мой Бог... І я баялася казаць, каб неасьцярожным словам не паказаць той прорвы, якая істнавала паміж табой, студэнтам, пазнаўшым, як мне тады здавалася, ўсе навукі і мною—малаграматнай работніцай. Ты хацеў, каб я казала, а я магла толькі маліцца да цябе, ты хацеў, каб я выказавала волю тваю, а я магла выпаўняць толькі тое, што скажаш ты... І што я магла сказаць, калі адно толькі слова для цябе было ў душы маёй, але мне здавалася, што яго мне нельга сказаць, што, сказаўшы яго табе, я зьняважу свайго Бога і разьвею чароўны сон быцьця з табою. Толькі пазьней, калі я з газэтаў дазналася, што ты ў турме, я не паўстрымалася, каб напісаць табе гэнае слова. І на яго я не адтрымала адказу... Страшны той час быў для мяне... Не хачу гаварыць аб ім... Зламалася жыцьцё, разьвеяліся сны маладыя...

Апошнія словы Стасі ціхім стогнам ўліліся ў плач віхру і абясьсіленая, быць можа нявольна вырваўшымся прызнаньнем, Стася заціхла, скуліўшыся у куточку на зэдліку. З апушчанымі ўніз рукамі, з вачыма, глядзячымі далёка, ў бяздоньне мінулых дзён, пахіленая пад цiжарам сваіх думак, у слабых водблесках каміну, Стася выглядала, як статуя людзкога гора. Страшэнны час сьціснуў мяне за сэрца. Я хацеў гаварыць і ня мог.

— Стася,—прашаптаў я.

Стася быццам разбудзілася з глыбокага сну, глянула на мяне і ачухалася.

— Ты нешта гаварыў, Сьцёпа? Даруй, я ня чула; але я ведаю, што ты хацеў сказаць, дык лепш не гавары, ня трэба: мінулага ўсё роўна ня вернеш... Няма цяпер тэй Стасі—а і Сьцёпы таго няма, прынамсі, для мяне. Жыцьцё разьбіла ўсіх маіх багоў і бажанят, і той мой бог, катораму найбольш ахвяраў я прыносіла, у дробны пыл рассыпаўся таксама.

— Стася, выслухай мяне.

Але Стася ўжо ачухалася зусім і нібы козачка, сскочыла з сэдліка, падбегла да мяне і, сьмяючыся, рукой затуліла мне губы.

— Сьцёпа, даволі—ні слова болей! Забудзь тое, што гаварыла, а калі толькі адазьвешся—ўцяку; а хіба-ж не захочаш у гэткую пагоду выганяць мяне,—жартавала яна і сьмяялася сваім чароўным сьмехам.

Ізноў я прыпомніў даўнейшую Стасю. Сьмех і слёзы зьмяняліся ў яе і прыходзілі адно за адным разам. То нахмурыцца, бывала, Стася, і губкі надуне, і сьлёзы набягуць да вачэй, калі іншы раз зажартуеш з яе, і маўчыць—ані дастуціцца, то зноў зараз блісьне вачыма з-пад чорных валасінкаў, як слонца з-пад хмараў і зальецца сваім сярэбраным сьмехам, такім шчырым, што здаецца—сьмяюцца ня толькі губкі Стасі, ня толькі ямачкі на шчочках і чорныя вочы, але разам з імі сьмяецца ўся душа Стасі. За хвіліну сьмех пяройдзе, ізноў нахмурыцца Стася і ўжо зьбіраецца плакаць.

— Вось што,—перарваўшы сьмех, і робячы паважную міну, сказала Стася.—Кіньма гэтыя дурныя гутаркі і пагаворым лепш перш-на-перш аб вячэры, а пасьля аб самаходзе, бо страшэнна есьці хочацца, а заўтра я павінна быць ўжо ў Э., дзе чакаюць мяне мае халернікі.

Ня было рады, я замаўчаў і разам з Ігнатам пачаў кратацца каля вячэры. Стася разам з намі таксама краталася каля стала і, ўступаючы ў ролю гаспадыні, мыла шклянкі і талеркі, рэзала булку і расстаўляла яду.

— Вось на адно пытаньне ты мне адказ даў, Сьцёпа,—сказала Стася, паказваючы на стол—павячэраць дасі, а як будзе з самаходам?

— І самаход табе дам, толькі заўтра... Глянь, як вецер дзьме і цемра якая...—Раней, як заўтра ранiцай, ехаць нельга.

— А калі мне трэба заўтра ранiцай быць ужо на месцы.

— Усё роўна ня дам, бо якраз пры гэткай пагодзе альбо курды дзе зловяць, альбо разаб'ецеся, зваліўшыся ў прорву.

— Ах, Сьцёпачка, ці-ж так мяне шкадуеш?—запыталася Стася, жартаўліва блiснуўшы вачыма.

— Ані трошку не цябе, я вось аб казённым самаходзе дбаю, яго ламаць, альбо аддаваць курдам—нельга.

— Вось брыда—засьмяялася Стася. Зусім ты адвучыўся з дамамі гаварыць туткі; напрошваешся на комплімэнты—а ён табе,—на!—казённы самаход!—Але, праўда, Сьцёпа, як будзе? Пэрспэктыва начаваць у Мэнджылі зусім мне не прыглядаецца; там на этапным пункце так цесна.

— Дык пераначуй тут, у мяне!

— Дзе? тутака?—Стася вачыма паказала на мой пакоік,—гэтага нельга пад ніякім варункам.

— Ведама, што нельга, зноў зажартаваў я,—туткі казённая установа, канцэлярыя вайсковай каманды, але ў мяне ёсьць пакоік для прыезных, тамака і пераначуй, гэта будзе па законе.

— Ігнат, пакажы пані пакоік, а я тымчасам шашлык падсмажу.

— У, брыдуля!—засьмяялася Стася і пайшла аглядаць пакоік. Стала на тым, што Стася пераначуе ў гэным пакоіку, куды Ігнат прынёс хутка з этапнага пункту і рэчы яе.

Падчас вячэры Стася жартавала, сьмяялася, мінаючы гутаркі аб усім, што датычыла яе асобы, а калі я папрасіў, каб расказала аб сваім жыцьці з таго часу, як ня бачыліся, Стася сьмяючыся сказала, што гэта зусім ня цікава і зараз перавяла гутарку на іншую тэму, і калі пачакаўшы трошкі, я зноў паўтарыў сваю просьбу, яна запраўды нахмурылася і амаль не сярдзіта адказала:

— Што за дрэнная прывычка ў людзей капацца ў чужых справах: хто, ды што, ды як?.. Мала табе таго, што бачыш: сястра міласэрная, ня вельмі нудная і ня вельмі брыдкая, не старая яшчэ—вось гэткую і гасьці. А то, што рабіла, чым займалася, можа яшчэ пашпарт запытаеш.

Я зьдзіваваны паглядаў на Стасю. Але яна ўжо змеркавалася і пачала перапрашаць.

— Ну, не сярдуй, Сьцёпа, але, далібог, гэта ня цікава.

Я зразумеў, што Стася не хацела гаварыць аб сабе, і больш не варочаўся да гэнае справы. За вячэрай і гутаркай час прайшоў няпрыметна і добра было запоўнач, калі я Стасю правёў да яе пакоіку.

**Дзядзька Пранук.**

(Працяг будзе).



маў свае тоўстыя дрэвы. Ці жаль было зладзеям гэтак нерацыянальна капаць акопы там, дзе, з стратэгічнага боку, яны не маглі прынясьці ніякай карысьці. А сколькі было працы! Гналі народ то сілай, то суседнія вёскі самі ішлі, бо кармілі добра, а таксама і плацілі нічога сабе. Праўда, сяляне не хацелі ні гэтай платы, ні лёгкай работы, бо бачылі, якую ім робяць шкоду. Адна вёска Старынкі паддалася заманкам на лёгкі заробак: кінулі гаспадары гаспадарку і цэлымі дружынамі пашлі „ў вакопы“. „Будуць грошы, можна будзе купіць і хлеба“, думалі яны. Сьмяяліся старынчане з суседняй вёскі Хадасоў, якія ня ішлі „ў вакопы“ і працавалі на гаспадарцы. Але скончылася праца, паехалі атрады, настала вясна і Старынкі засталіся бяз хлеба. Прыехалі яны ў тых самых хадашан, з якіх сьмяяліся, прасіць хлеба. Сьмяюцца і цяпер хадашане з старынчан.

Прыехаў у Вялейку. Гэты гарадок, пабудаваны на рацэ Вяльлі, з правядзеньнем чугункі да вайны хутка стаў разьвівацца. Вайна пашкодзіла яму, зруйнаваўшы самы яго цэнтр. Цяпер у Вялейцы кіпіць праца: зноў будуюць тыя што вярнуліся, гаспадары свае дамы.

Ад Вялейкі паехаў шляхам на конях да Маладзечна. Як выехаў на Маладзечанскі шлях, дык стала так трасьці, што аж іскры з вачэй пасыпаліся: ўся дарога ад Вялейкі да Маладзечна выслана таўстымі жэрдкамі—„накатам“. І гэта на працягу 20 вёрст! Дарога мае два сажні ў шырыню, значыцца, замошчана дрэвам 20,000 квадратных сажняў. Сколькі гэта спатрэбілася дрэва! А такіх, мошчаных дрэвам, дарог у нашым краі нямала. Цяпер дзе-ня-дзе бярвеньні згнілі і праваліліся, дзе-ня-дзе бэлькі пад нізом уехалі ў пясок і дарога скрывілася, жэрдкі важгаюцца... Ехаць па такой дарозе мука пякельная: вас так звалтузіць, так разломіць косьці, што літаральна робішся хворы. Ўсё рабілася насьпех, абы з рук збыць, не шкадуючы ні матар'ялаў ні капіталу.

Маладзечна таксама будуецца. Даўно я тут быў і многа перамен зрабілася з таго часу. Іду да сэмінарыі, каб паглядзець на гэту установу, гордасьць нашага павету, каторая выпусьціла столькі ідэйных барцоў. Падыходжу і Божа! я атарапеў: у што зрабіліся гэтыя пекныя, дарагія ўспамінамі кожнаму настаўніку, муры. Часьціна сьцяны неяк зьнесена і муры стаяць голыя. Там, дзе раней была чыстата і парадак, цяпер запусьценьне, гразь. Па дварэ ходзяць нейкія коні і жаўнер, задраўшы галаву, пяе нейкую песьню. Я доўга стаяў, апусьціўшы галаву. Нейкі цяжкі сум скаваў маё сэрца. Здавалася, што перада мной ляжыць дарагі нябожчык, каторага я ўжо ніколі ня ўбачу. З сьціснутым сэрцам пайшоў я на станцыю. Там пахаджу па „Гарадку“, расьсею сумныя думкі. „Гарадком“ пры станцыі ў Маладзечне завецца сапраўды гарадок з баракаў. Ён мае свае вуліцы з тротуарамі, калодзезі і пры ўходзе пекную арку. Баракі цёплыя, чысьценькія. Ёсьць баракі, што маюць гучныя назвы, як напр., „Дварэц Лабірынт“. Ў гэтым „Лабірынце“, каторы запраўды досіць вялікі, ў ваднэй яго залі на настаўніцкім зьезьдзе ў 1917 годзе я дэклямаваў беларускія вершы, пры крыках настаўніцтва „Жыве Беларусь“. Падыходжу. Дзе-ж „Гарадок?!“ няма: палякі адступаючы летась спалілі станцыю і „Гарадок“...

**Ў. Жычка.**

# Беларуская хроніка.

### Ў Нацыянальным Камітэце.

Заўтра, ў суботу 19 г. м. у памяшканьні Беларускага Музыкальна-Драматычнага Гуртка на Біскупскай вул. № 12 адбудзецца ўрачыстае адкрытае пасяджэньне Віленскага Беларускага Нацыянальнага Камітэту з прычыны першых угодкаў Слуцкага паўстаньня, аб якім будзе прачытаны адпаведны рэфэрат.

### У Музыкальна-Драматычным Гуртку.

У памяшканьні Беларускага Музыкальна-Драматычнага Гуртка на Біскупскай № 12 на абход угодкаў Слуцкага паўстаньня 19—XI ладзіцца вечар. Беларускі хор прапяе ваяцкія песьні, прадстаўлены будуць I і XII абраз «Адвечнай песьні» Я. Купалы, пасьля дэклямацыя, жывыя абразы і іншае.

### Зачыненьне „Krynісу“ і штраф.

Беларуская сялянская газэта „Krynіса“ аштрафована ўладамі на 10.000 марак і часова спынена выданьнем. Штраф заплачаны ў сераду, 16 г. лістапада.

# ТУТЭЙШАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

### Няма грошай.

На пасяджэньні Гарадзкой Рады 10 гэтага лістапада старшыня магістрату п. Банькоўскі заявіў, што паводлуг вестак, якія ён мае, ўрад ня будзе далей даваць пазычак гораду, дзеля чаго прыдзецца весьці гаспадарку на свае сілы і кошты.

### Але-ж і дом!

Ў мінулую пятніцу днём у доме № 42 на Легіёнаўскай вуліцы абвалілася столь, якою зламана была нага сядзеўшаму ў кватэры жаўнеру; пацярпеўшы адасланы ў ваенны шпіталь.

### Да ведама безработных.

Патрэбны лясьнікі на выезд. Давядвацца ў цэнтральны бюро профэсыянальных саюзаў (вул. Сьв. Яна № 21).

### У Біржы Працы.

Біржаю працы за тыдзень з 29. X. па 5. XI г. г. дана работа 20 чорнаработчым і 22 асобам з саюзу кабечай прыслугі—кухаркам, пакаёўкам і г. д.

### Партыйны мітынг.

У мінулую нядзелю а 1 г. ўдзень у будынку польскага тэатру адбыўся мітынг Польскае Народнае Партыі (P.S.L.). На мітынгу былі, прыехаўшыя дзеля гэтага з Варшавы быўшы старшыня польскае рады міністраў п. Вітос і віцэ-старшыня Сойму п. Бойко.

### Рэестрацыя стратаў.

У доме № 8 па Міцкевічавай вул. (быўшы Георгіеўскі просп.) пачала працаваць камісія па рэестрацыі стратаў ад сусьветнай і польска-савецкай войнаў. Там-жа прымаюцца заявы аб звароце вывезенае ў Расею і Украіну маетнасьці.

Пры падаваньні просьбаў трэба далучаць адпаведныя дакумэнты—пасьведчаньні, што даная асоба мела страту і шкоду.

Калі няма рэквізыцыйных квіткоў, актаў, полісаў багажных квітоў і інш., дык пацярпеўшы павінен падаць 2-х сьведкаў якіх дапросіць камісія.

Заявы аб стратах, зробленых нямецкім войскам, прымаюцца толькі да 1-га сьнежня гэтага году.

Заявы аб рэестрацыі ваенных стратаў, а таксама й далучаныя да іх дакумэнты звальняюцца ад аплаты якога-нібудзь падатку.

### За зьнявагу.

10 г. лістапада ў Акружным Судзе разглядалася справа п. П. Завішы, абвінаваціўшага Рэдактароў „Gazety Wil.“ п. п. Каяловіча і Горовіча за зьнявагу па 533 арт. Карн. Кодэксу. П. Горовіч засуджаны на 10.000 мар. штрафу і на 7 дзён дамовага арышту, а таксама і на заплату судовых коштаў,

## Паштовая скрынка.

С. Кулiноўскаму, вёска Сычавічы. Прысланае да друку не падходзіць, бо верш ня рытмічны. Пішэце лепей, што ў вашых ваколіцах дзеецца і наагул, што ў Вас чуваць.

А. Шаўлюку, в-ка Вял. Запрудзьдзе. Верш „Мая палоска“ слабы і друкавацца ня будзе. Прысылайце корэспондэнцыі.

## Віленская біржа.

Офіцыяльна.

За 16 лістапада 1921 г.

| | Куплена. | Прадана. | |
|---|---|---|---|
| Даляры . . . . . . . . | 3550 | 3410 | п. м. |
| Фунты штэрлінгаў . . | 13650 | 13300 | „ |
| Ост.-маркі (1000) . . . | 15.45 | 14.95 | „ |
| Нямецк. маркі (1000) . | 15,50 | 15.00 | „ |
| 10 руб. золатам . . . . | 14600 | 14300 | „ |
| Царскія 100 р. . . . . | 420 | 380 | „ |
| Дацкія кроны . . . . . | 560 | 540 | „ |
| Француск. франк . . . | 255 | 245 | „ |
| Залаты даляр . . . . . | 3400 | 3300 | „ |
| „ фунт . . . . . | 13650 | 13300 | „ |
| „ франк . . . . | 550 | 520 | „ |
| Сярэбраны даляр . . . | 2500 | 2300 | „ |

**Вучыцялі й вучыцелькі!**

Працуючы ў вёсцы, Вы лёгка можаце сабраць вакольныя беларускія народныя песьні і гэтым укладзеце новы скарб у наш друк, прыслаўшы сабранае ў „БЕЛАРУСКІ ЗВОН“.

## Новыя кнігі.

**М. Гарэцкі. — „Гісторыя беларускае літэратуры“** (старадаўнае, новае і сучаснае). 208 стр., 33 рысункі, альбомная папера, цьвёрдая акладка. Цана 150 польскіх мар.

**Браты М. і Г. Гарэцкія — „Маскоўска-беларускі слоўнік“**, выданьне II, з папраўкамі і вялікімі дадаткамі, 144 стр., цана 75 польскіх марак.

**Антон Навіна—„Пуцяводныя ідэі беларускае літэратуры,** адбітка з „Нашае Думкі», цана 20 польскіх марак.

**А. Канчар — «Клясавае, нацыянальнае і рэлігійнае змаганьне на Беларусі»**, адбітка з «Нашае Думкі», цана 20 польскіх марак.

**Я. Лёсік—„Нашая крыніца“**, трэцяе чытаньне для беларускіх пачатковых школ. 107 стр., цана 50 польскіх марак.

**Тэрміналёгія арытмэтыкі,** укладзеная Камісіяй Менскага Беларускага Пэдагогічнага Інстытуту. Цана 10 польскіх марак.

**Л. Гарэцкая. — „Родны Край“**— трэцяя і чацьвёртая пасьля лемантара кніжка да чытаньня. Цана 150 мар.

**Францішак Аляхновіч.—Заручыны Паўлінкі** пьеса ў 1 акце з песьнямі і скокамі. Цана 50 мар. п.

Апрача таго, перадрукаваны:

1. **Лемантар „Зорка“** ч. 1 А. Смоліч, цана 20 м.
2. **Беларуская Граматыка** Тарашкевіча, цана 22 м.
3. **Задачнік Юрэвіча** год I.

Прадаюцца ў «Беларускай Кнігарні», Вільня, Завальная 7.



Друкарня „Віленскага Выдавецтва“ Б. Клецкіна, М.-Сьцяпанаўская, 23.

Рэдактар-Выдавец ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ.